Год I. Сакавік № 1.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай. Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. 1

ЗЬМЕСТ № 1:

PIERASYŁKA APŁAČANA RYČAŁTAM ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| | |
|---|---|
| Падпіска месячна . . . . 35 гр. | Цана абвестак: |
| „ на паўгода . . 2 зл. | Цэлая старонка . . . . 40 зл. |
| „ на год . . . . 4 зл. | Паўстаронкі . . . . . 20 зл. |
| Заграніцу ўдвая даражэй. | Адна чацьвертая старонкі 10 зл. |
| | Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы. |

Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Людвісарская № 1—23.
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

## *Ад Рэдакцыйнай Калегіі.*

*Выпускаючы ў сьвет першы нумар часопісі беларускай моладзі „Шлях Моладзі“, мусім выявіць мэту яе і выказаць, на чым яна апірае сваё істнаваньне.*

*Мэты нашай часопісі наступныя: ськіроўваньне беларускай моладзі на шлях нацыянальна-беларускі і хрысьціянскі, абзнаямляньне яе з гісторыяй, геаграфіяй Беларусі, літэратурай, народным беларускім творствам і агулам культурная й узгадаваўчая праца сярод нашай моладзі. Дзеля гэтага будзем зьмяшчаць стацьці ў духу нацыянальна-беларускім і хрысьціянскім, а так-жа стацьці агулам з галіны беларускай культуры. Вось-жа зьвяртаемся з вялікай просьбай да ўсяго нашага Грамадзянства, асабліва да Моладзі прысылаць у рэдакцыю часопісі „Шлях Моладзі“ ўсякія адпаведныя стацьці, весткі і карэспандэнцыі.*

*Цяпер некулькі слоў, што да стараны матэр'яльнай. Усім добра ведама, што выдрукаваць і выпусьціць у сьвет часопісь, каштуе даволі многа. Дзеля гэтага можа не адзін з грамадзянства запытае, з чаго гэта часопісь істнуе. Вось-жа, пачынаем выдаваць нашу часопісь гэтак: сябры Рэдакцыйнай Калегіі—друкары, складаюць і друкуюць дарма, іншыя працуюць таксама дарма, а на рэшту выдаткаў на*

*першы нумар тыя-ж сябры злажылі кожны свой запрацаваны грош. На далей пэўне-ж такжа цяжка нам будзе ўтрымліваць нашу часопісь, а тым цяжэй пашырацъ яе. Дык і ў гэтай справе зьвяртаемся з просьбай да Грамадзянства падтрымаць нас!*

*Словам, ад Цябе, Беларускае Грамадзянства, залежыць далейшы лёс часопісі „Шлях Моладзі". Просім Цябе — дапамажы нам разьвівацца!*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, Мар'ян Пецюкевіч, Уладыслаў Тарасэвіч, Янук Багдановіч, Альфонс Шутовіч.*

# ШЛЯХ МОЛАДЗІ.

Моладзь — гэта будучыня. Праўда гэта ведама ўсім. Дык нічога дзіўнага, што кожны сьвядомы народ на моладзь зьвяртае вялікую ўвагу.

Наш Беларускі Народ павінен так-жа зьвярнуць асаблівую ўвагу на сваю моладзь. Быдучыня нашага народу, які яшчэ толькі-што прыступіў да будовы нацыянальнага жыцьця, залежа ад моладзі. Якая наша моладзь — такая наша будучыня. Калі моладзь наша будзе ідэйная, маральная, з выробленым характарам, сьведамая сваіх праўдзівых ідэалаў — будучыня народу нашага пэўная. Калі-ж моладзь наша будзе бязпутная, безхарактэрная, бяз сьведамасьці ясных, вечных, праўдзівых ідэалаў — малая надзея на будучыню народу. Словам ад моладзі нашай залежа беларуская самастойнасьць. З гэтага вынікае, што мы моладзь беларуская, павінна адпаведна прыгатавацца да вялікай працы на беларускай народнай ніве.

Кожны разумны чалавек, калі прыступае да будовы дому, доўга і паважна да гэтай працы рыхтуецца. Ён аблічае сваё магчымасьці матэр'яльныя, грунтоўна разважае плян будучай будыніны, загадзя награмаджывае матэр'ял, шукае адпаведных і як найбольш працаздольных работнікаў.

Мы, моладзь беларуская, стоячы яшчэ толькі на парозе жыцьця, казаў-бы так-жа рыхтуемся да вялікага будаваньня, да яснай, сьвятой мэты. Мы, моладзь беларуская, добра разумеем, што нашым будаваньнем,

нашай мэтай зьяўляецца поўная ідэйнасьці і самаахвярнасьці праца на асновах хрысьціянства дзеля ўспомненай ужо беларускай народнай самастойнасьці, дзеля беларускай культуры, дзеля справядлівых беларускіх грамадзкіх ідэалаў.

Але мала ведаць сваю мэту, любіць яе, лятуцець аб ёй. Мала так-жа й працы дзеля дасягненьня ідэалу. Мы, моладзь беларуская, мусімо добра сабе ўцяміць, што ня кожная праца вядзе да мэты. Мы гонячыся за ідэалам, мусімо мець прад вачыма ясны, цьвёрды, дазнаны шлях. Інакш будзем толькі марнаваць свае духовыя і фізычныя сілы і, замест зблІжацца, будзем ад мэты аддаляцца.

Вось-жа шляхам да ідэалаў беларускай моладзі прадусім будзе арганізацыя. Мы, моладзь беларуская, ня маючы дагэтуль сваей адпаведнай арганізацыі, ходзім звычайна самапасам і, дужа часта, дзеля сваей наіўнасьці і нясьведамасьці, клонімся ў той бок, дзе калечаць нашу душу, абцінаюць нам маладыя крыльля, паніжаюць нас маральна і ўстрымліваюць арліны лёт да праўдзівых ідэалаў. Абаронай ад гэтай вялікай небясьпекі зьяўляецца самастойная, ідэйная арганізацыя беларускай моладзі.

Зарукай моцы гэткага шляху, гэткай арганізацыі будзе ўзгадаваўчая сіла навукі Хрыста і народных беларускіх ідэалаў. З адвечных жарол Красы, Праўды і Дабра каваць будзем сабе зброю, прыбіраць, ачышчаць і ўмацняць свой шлях жыцьцёвы, напэўна вядучы да сьветлых ідэалаў, да нашых найвышэйшых, найясьнейшых мэтаў.

Прыступаючы да гэтай вялікай, сьвятой працы, заклікаем усю беларускую моладзь, як праваслаўную так і каталіцкую пад сьцяг „Шляху Моладзі!“

Пачынаючы нашу працу паўторым за пясьняром А. Зязюляй.

„Памажы-ж нам, Божа мілы,
Прабудзіцца да жыцьця,
Удзялі парады, сілы,
Каб ня зьбіліся з пуцьця!“

*Антось Маладзік.*

# У 11-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі (1918-1929).

У часе вялікай рэволюцыі ў Расеі, якая скінула ярмо расейскіх цароў з паняволеных імі народаў, пачаў праводзіць сваю волю ў чын і Народ Беларускі.

Беларусы змабілізаваныя ў рады расейскай арміі, пасьля развалу царскага трону, пачалі злучацца ў свае нацыянальна-беларускія вайсковыя арганізацыі з мэтай дасягненьня ідэалу Незалежнасьці. Не прапусьцілі гэтага, так важнага мамэнту і ўсе тыя Беларусы, каторыя ня былі ў радох расейскай арміі, як сьвецкія, так і духоўныя. Яны таксама, як і вайскоўцы прыступілі да працы за Незалежнасьць. Такім чынам закіпела праца ў беларускім грамадзянстве каля работы будаваньня Незалежнай Беларусі.

Беларусы-вайсковыя вялі прыгатаваўчую працу ў войску, арганізаваўшыся ў канцы ў Беларускую Цэнтральную Вайсковую Раду. Беларусы не вайскоўцы — старэйшае грамадзянства—вялі прыгатаваўчую працу сярод сялян, работнікаў і беларускай інтэлігенцыі.

Дзякуючы такой супольнай працы беларускага грамадзянства, у месяцы сьнежні 1917 г. зьехаліся ў Менск прадстаўнікі з усіх куткоў Беларусі, каб выявіць усяму сьвету, што Беларускі Народ *жыве* і, што ён хоча *быць незалежным.*

У гэтым Вялікім Беларускім Кангрэсе прыймалі ўдзел: Беларускія соцыялісты рожных кірункаў, сябры Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі і безпартыйныя.

Здавалася тады, што настане час, калі яснае сонейка вольнасьці засьвеціць і для нас. Але не спадабалася гэта маскоўскім бальшавікам і інш. Зьезд Усебеларускага Кангрэсу разагналі.

Зьезд Усебеларускага Кангрэсу пратрываў толькі тры дні, і за гэты кароценькі час пасьпеў выбраць Раду Беларускай Рэспублікі, якая тры месяцы пазьней — 25 сакавіка 1918 г. абвесьціла Беларусь Вольнай і Незалежнай. І хоць дагэтуль Беларусь сваей незалежнасьці не асягнула, то дзень абвешчаньня незалежнасьці, ёсьць аднэй з найсьвятлейшых старонак гісторыі Беларусі, найвялікшы беларускі народны Ідэал.

Дзень 25 сакавіка кожнага году Беларускі Народ урачыста сьвяткуе. У гэты дзень кожны сьвядомы Беларус адчувае радасьць і надзею. Радасьцяй ёсьць тое, што ў дзень 25.III.1918г. Беларускі Народ прад усім сьветам выявіў сваю волю, што ён жыве і хоча быць вольным і незалежным, а надзеяй ёсьць тое, што народ наш сваей працай усьцяж пры-

бліжаецца да здабыцьця сваей незалежнасьці й самастойнасьці.

Мы, моладзь беларуская, павінны заўсёды помніць аб гэтым вялікім беларускім народным сьвяце, працаваць для найвышэйшага беларускага Ідэалу і прымаць найжывейшае ўчасьце ў яго сьвяткаваньні! *П.*

# У 10-ыя ўгодкі Віленскай Беларускай Гімназіі.

Беларусь разам з Літвой, страціўшы сваю палітычную самастойнасьць, злучыўшыся з Польшчай на Люблінскай Уніі 1569 г., страціла так-жа паволі сваю самастойнасьць культурную.

Ад гэтага часу насьцеж адчыніліся вароты полёнізацыі Беларусі і Літвы. Мова наша была выгнана з урадаў і заменена польскай, асьвечаныя слаі тагочаснага нашага грамадзянства, як паны, мяшчанства і ўраднікі здрадзілі народ і пагналіся за культурай пануючага народу. Ужо ў XVII і XVIII стагодзьдзях бачым поўны заняпад беларускай культуры.

Пад канец XVIII ст., калі наступіў падзел Польшчы, Беларусь адышла да Расеі. Палажэньне беларускай асьветы і культуры агулам не палепшылася.

Сьпярша расейскія цары, асабліва Аляксандар I, жадаючы ўдабрухаць Палякоў, каб яны ціха сядзелі і згадзіліся з сваім лёсам, давалі ім у нашым краю вялікія свабоды. Полёнізацыя тады ўзмоцнілася яшчэ больш, як за часоў Польшчы.

Урэшце пасьля двух польскіх паўстаньняў проціў Расеі, цары сваю да Беларусі палітыку зьмянілі. Яны ўсякімі даступнымі спосабамі пачалі русыфікаваць Беларусь, нішчачы ўсё тое, што толькі напамінала аб нашай народнай асобнасьці і самастойнасьці.

Не забываймо так-жа, што ў XVIII і XIX ст. панаваў у Беларусі прыгон і даведзяны быў да самых крайніх граніц. Народ наш сялянскі, пакінуты, як сказана вышэй, асьвечанымі клясамі, быў у поўным палоне, як маральным, так і фізычным. Цемра і нядоля вісела над роднай краінай.

У 1861 г. прыгон, праўда, быў спынены. Але гэта было на паперы, а ў жыцьці народ наш далей быў бадай такім-жа нявольнікам, як і раней.

Царскія ўлады дзеля мэтаў русыфікатарскіх пачалі закладаць расейскія школы, але народ наш дзеля сваей беднасьці і дзеля розных аграрнічэньняў праўных малы меў да гэтых школ доступ. Ды трэба нам помніць так-жа, што

калі хто з Беларусаў і даставаўся ў расейскую чужацкую школу, дык яна пераважна забівала ў ім беларускую народную душу, адрывала яго ад свайго народу і вяла на службу чужынцам.

Урэшце сусьветная вайна, а за ей расейская рэвалюцыя перавярнулі царскі трон і разбілі кайданы няволі. Розныя народы бышай расейскай імпэрыі пачалі брацца кожны да будаваньня свайго ўласнага дому.

Лепшыя сыны Беларусі, яшчэ далёка прад вайной, ведалі, што аснова нашай будучыні — гэта родная мова, родная школа, народная культура. Слаўны наш пясьняр Мацей Бурачок (Фр. Багушэвіч), з Ашмяншчыны, які слушна павінен быць названы бацькам беларускага сучаснага адраджэньня, яшчэ ў 1891 г. ў сваей „Беларускай Дудцы“ пісаў Беларусам: **„Не пакідайце сваей мовы, каб не памёрлі“**. У гэтым-жа часе Аляксандар Ельскі з Меншчыны складае ў беларускай мове кніжыцы і пускае іх у народ дзеля прасьветных мэтаў. У сваім перакладзе на беларускую мову **„Pana Tadeusza“** — Ад. Міцкевіча, ён так піша:

*„О, калі-б дажыў я той пацехі,*
*Што-б тая ксёнжка зблудзіла пад стрэхі*
*І каб сяляне яе ў рукі ўзялі,*
*Дый як сваю песьню родну моцна пакахалі.“*

Ад 1906 г. да 1916 многа працавала для беларускай народнай асьветы Цётка (А. Пашкевічанка-Кейрыс), якая ўкладала беларускія чытанкі для дзяцей і пісала артыкулы пэдагогічнага характару.

У 1906 г. на чале з пясьняром нашым Якубам Коласам у Менску быў заснаваны „Беларускі Вучыцельскі Саюз“. За прасьветную працу гэтага Саюзу сярод беларускага сялянства і сам Як. Колас і многія іншыя сябры паплаціліся турмой.

Урэшце ў 1919 г. у пачатку студня ў Вільні група Беларусаў начале з нябошчыкам Іванам Луцкевічам у Базыльянскіх мурох заснавала першую Беларускую Гімназію, якая істнуе там і да сяньня.

За дзесяць гадоў свайго істнаваньня Віленская Беларуская Гімназія зрабіла вялікую народную работу. Яна выгадавала цэлыя кадры беларускіх інтэлігентаў, якія ўжо сяньня трымаюцца за плуг іаруць вякамі запушчаную, быльлём зарошшую народную ніву.

Віленская Беларуская Гімназія на працягу дзесяці гадоў шмат працярпела і шмат зьнясла на сваіх плячах гора. Аднак вытрывала. Верым, што і далей вытрывае.

Дык няхай жыве Віленская Беларуская Гімназія і праз узгадаваньне беларускай моладзі няхай нясе сьвятло веды ў родным слове ў кожны кут Беларусі! *М. Сьвятляк.*

# Літэратурны аддзел.



**Янка Купала.**
(Ян Луцэвіч.)

Вялікі беларускі народны паэт. Радзіўся 25 чэрвеня 1882 г. у фальварку Вязынцы не далёка ад Радашкавіч у Меншчыне. Бацька яго, бедны селянін. Вучыўся ён спачатку ў в. Сініцы. Пасьля ў 1909 годзе паступіў, а ў 1913 годзе кончыў у Пецярбурзе агульна-прасьветныя курсы Чэрнява.

Першы верш Купала напісаў ў 1905 годзе п. н. „Мужык“. З твораў яго найгалаўнейшыя такія: зборнік вершаў, „Жалейка“, „Гусьляр“, „Шляхам Жыцьця,“ „Спадчына“ і „Безназоўнае.“ Поэмы: „Адвечная песьня“ і „Сон на кургане.“ Сцэнічныя творы: „Паўлінка“, „Раскіданае гняздо“, „Прымакі“ Цяпер Я. Купала,прабывае ў Менску.

## РВІСЯ, ДУМКА!.

Покі старасьць неўдалая
Костак з ног ня вале,
Рвіся, думка маладая,
Туды, вышай, далей!
К таей праўдзе ненапраснай:
К шчасьцю і свабодзе;
Рвіся, покі будзе ясна,
Покі будзе годзе!
Гарапашна, непрасьветна
І ў душы і ў хаце,
Стане горай няпрыветна,
Калі будзем спаці.
Дык жывуча, скокам-бокам,
Покі сэрца точыш,
Рвіся, думка, ненарокам,—
Знойдзеш, чаго хочаш!
Рвіся! рвіся! ды старайся
Нуду адалеці,
Заглушыцца не давайся
Ні за што на сьвеце.

*Янка Купала.*

## РАЗЬВЕЙСЯ, ТУМАН.

Разьвейся, туман, расплывецеся, хмары,
Над хатай пахілай маей!
Хай сонца прагляне, хай цяжкія мары
Ня мучаць душы і грудзей...
Штось клікала рвацца і вышэй, і далей,
На лепшае звала жыцьцё.
Вы, злыя туманы, вы, хмары бяз жалю,
Закрылі, забралі мне ўсё...
Стаю і гляджу я на хату крывую,
На ніву пустую сваю —
І сьлёз ня стрымаю, і ціха бядую,
І нудную песьню пяю;
І к небу малюся, ў жыцьцё заглядаю,
Ці моц скуль якая ня йдзе?
І цёмна, і нема ад краю да краю,
Ні сьвету, ні сьледу нідзе...

Ні сьвету, ні сьледу... марнуюцца сілы,
Дух праўды і волі прыгас;
Нядоля і гора, навокал—магілы, —
Вось роднага шчасьця абраз...
*Янка Купала.*



**Казімер Сваяк.**
(Кс. К. Стэповіч.)

Сын селяніна. Радзіўся 19 лютага 1890 г. у вёсцы Барані, Сьвянцянскага пав. Па скончэньні пачаткавае школы, Сваяк уступіў у мястовую школу ў Сьвянцянах, якую кончыў 1905 г., падчас першай расейскай рэволюцыі.

У 1905 годзе Сваяк паступіў у Віленскую Духоўную Сэмінарыю.

У гадох 1907-8 ён, будучы ў сэмінарыі, чытаў „Нашу Ніву“, з якой больш запазнаўся з беларускім рухам і ад гэтага часу стаў наскрозь сьвядомым беларусам-адраджэнцам.

Цяжкая праца, у працягу 4 гадоў, у сэмінарыі вельмі пашкодзіла ягонаму здароўю. У яго пачаліся сухоты і ён мусіў ехаць у Закапанае лячыцца.

У 1913 годзе ў Вільні выходзіла беларуская газэта „Biełarus“, у якой Сваяк надрукаваў першы свой верш „Prad Boham“. Ад гэтага часу Сваяк пісаў вершы і вёў працу над разьвіцьцём беларускай народнай ідэолёгіі.

Памёр Сваяк ад сухот 6 траўня 1926 г. Пахаваны ў Вільні на могілках Росса.

Казімер Сваяк папісаў гэткія творы: зборнік вершаў „Мая Ліра“, вясковая драма „Янка Канцавы“ і кніжку да набажэнства „Hołas Dušy“. Апрача гэтага шмат яшчэ асталося вершаў і іншых твораў, якія чакаюць свайго выданьня.

## ГЫМН РОДНАЙ ЗЯМЛІ.

Зямліца прошласьці ціхой,
Крывавай спісана рукой,
Айчына — Маці — Беларусь,
Цяжкі лёс Твой.

Паклон з трудом Тваей дружбе,
Паклон за волю барадзьбе,
Айчына — Маці — Беларусь,
Паклон Табе.
Жалосна плача песьнь Твая,
І Бога моліць, сьлёзная,
Айчына — Маці — Беларусь,
Ты родная.

Ідзе вось ясная пара,
Праўду сьвеціць нам зара,
Айчына — Маці — Беларусь,
Гарой, Жыва!

## НА ГАДАВІНЫ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ.

Вялікі дзень. Казаў-бы Хрыстус
Сваей дзень сьмерці непавіннай
Злучае ў зьвязяк тайны — дзіўны:
На гэты год, на гэты дзень.

Кальварыю прайшла Русьбела,
Крыжамі значана усюды,
Магіл бяз ліку — жертв прыблудаў:
У гэты год, у гэты дзень...

А іншай песьні не пачуеш,
Як толькі стогн, жальбу, скрыготы;
Палынь расьце, цьвітуць асоты:
У гэты год, у гэты дзень.

Ўсе наругаліся даволі,
Судом Пілата пакаралі,
Адзеж дзялілі, воцт давалі:
У гэты год, у гэты дзень.

Прад вокам сьвету крыжавалі
Вучоныя і фарызэі
І кніжнікі і садуцэі:
У гэты год, у гэты дзень.

І страж паставілі цяжкую:
„Ня ўстане з мёртвых аніколі.
„Верыла ў Бога... Яго воля
„Ня ў гэты час, ня ў гэты дзень.

Прабілі сэрца, рукі ногі,
М'ж неразумных палічылі,
Абрабавалі, абяднілі:
У гэты год, у гэты дзень.

Ня верылі, што душу мае,
Над целам зьдзекі учынілі,
У цьвёрдай скале палажылі:
У гэты год, у гэты дзень.

Зьмілуйся-ж Божа, ты над ею,
Ня дай у гробе век ляжаці,
Пазволь да жыцьця ей устаці:
У гэты час, на трэці дзень.

*Казімер Сваяк.*

## МОЛАДЗІ.

Гэй, лятарні запаляйце
З душ жыцьцёвых і гаротных·
Гэй, каханьнем запаляйце!
Сьмела, сьмела падымайце
Іх да сонца й зор цудоўных
І ў блакіце прыбівайце.
У блакіце, што далёка
Шырынёю расьцягнуўся.
Ахапіць як можа вока.
У блакіце, што высока
Над старонкай Беларусі,

Дзе пануе ноч глыбока.
Стуль яны, каб асьвятлялі
Шлях-дарогу к лепшай долі,
Сэрцы жарам саграваді,
Каб яны стуль прываблялі
Душы слабыя з нядолі,
Моц і гарт, каб ім давалі
У змаганьні з крыўдай, зьдзекам,
Што няўпынна вытварае
Чалавек над чалавекам,
Ў барацьбе з аблыжным векам,
Што нялюдзкасьць выслаўляе
І дае прастору зьдзекам...
Дык лятарні запаляйце
З сэрц імкненьняў, з думак-мараў
І у высь іх паднімайце.
Гэй, лятарні паднімайце
Ў край прыгожасьці і чараў!...
Запаляйце й падымайце!

*У. І.*

## УСТАНЕМ АД СНУ ВЕКАВОГА

Устанем ад сну векавога,
Бо цемры зьнікае пара,
Чакаючы дня залатога,
Між намі ўжо зьяе зара.
Пратром свае вочы навукай
І з праўды аружжа скуём —
З адвечнаю крыўдай, з прынукай,
Змаганьне усе павядзём.
Мы выйдзем на вузкія гоні
Радзіменькіх нашых палёў
І шчыра ачысьцем загоны...
Ім дзікіх ня трэ' караґёў.
Мы станем гурмою да працы
І сілы натужым свае,
Нам сонейка будзе ўсьміхацца
Пацешаць нас зорачкі ўсе.
Збудуем сваімі рукамі
Палац на Беларускай зямлі —
І доля жыць будзе вякамі
І прыдуць шчасьлівыя дні,

*У. І.*

# З народнай творчасьці.

## Кот і лісіца.

(Байка з Ваўкавыскага пав. Ізабэлінскай вол., запісаная ў Зборніку П. В. Шэйна, II том).

Была сабе адна ліска і была яна надта пужлівая. Думае яна сабе, што тут зрабіць? Прышло ей на думку выйсьці замуж. Аднаго разу пайшла яна шукаць сабе мужа. Ідзе так, ідзе, спатыкае ката, кот ей спадабаўся, а яна кату спадабалася і яны пажаніліся і жылі ў вялікай згодзе. Прайшло некалькі гадоў пасьля ажаненьня, захацелася ім пагуляць, і пайшлі на прагулку. Ідуць яны, ідуць, кот крыху застаўся, а ліска пайшла наперад і спаткала яна мядзьвядзя і ваўка і кажа ім: „Я цяпер вас не баюся, бо ў мяне ўжо ёсьць муж." Так яны кажуць: "Пакажы нам свайго мужа." Ліска кажа: "Калі хочаце бачыць майго мужа, то палажыце тут вала, а як прыдзе яго есьць, дык вы яго пабачыце, толькі пахавайцеся куды-небудзь." Зараж-жа воўк пашоў зарэзаў вала, прынёс, палажыў, дзе яму ліска казала, сам-жа схаваўся ў хворaст, каторы недалёка ляжаў і толькі крыху хваста відаць было з хворасту, а мядзьведзь узлес на высокае дзерава, аж на самы верх. Ліска клікнула мужа-ката і ён прышоў. Ня ведаўшы, што тут ёсьць воўк і мядзьведзь, а ўгледзіўшы мяса—пачаў есьці. Кот есьць і крычыць: „Мяў, мяў, мяў..." А мядзьведзь паціху кажа да ваўка: „Сам маленькі, а ўсё крычыць, што яму мала." Кот пад'еўшы стаў азірацца на ўсе бакі і заглядзіўшы хвост ваўка, які відаць было з хворасту, думаў, што гэта мыша, дык ён ціханька падкраўся, дый хапіў ваўка за хвост. Воўк спалохаўся, разваліў хворaст і стаў уцікаць. Кот убачыўшы, што гэта ня мыш, а воўк, сам спалохаўся і на дзерава палез. Мядзьведзь пабачыўшы, што кот лезе на дзерва, на каторым сам сядзіць, сказаў: „Ён і па мяне лезе, ды састраху-бух на зямлю і забіўся на сьмерць. Кот паглядзеў, што нікога няма зьлез з дзерава на зямлю і пайшоў з ліскаю дамоў. Ліска бачачы, што яе муж паразганяў такіх вялікіх зьвяроў, з гэтага часу нікога не баялася.

## НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Паехаў Ясюленька на Русь, на вайну;
Пакінуў Марысіцу адну ў даму.
Маладая Марысіца сына радзіла; —
Як радзіла, парадзіла, у Дунай пусьціла.
„Плыві, плыві мой сыночак, ды як цьвяточак,
А я пайду ў садочак, саўю вяночак."
Ох, вы хлопцы, рыбалоўцы, закідайце сеці,

Закідайце шаўкоў неват на дробную рыбку.
Не злавілі дробнай рыбкі, злавілі дзіця.
Панясьлі тое дзіця пад ратушны двор;
Ударылі барабаны і ў жалосны звон,—
Заказалі ўсім дзевачкам сабірацiся,
Дык к гэтаму мальчышалку прызнавацiся.
Усе дзеўкі вянкі нясуць — Марысі няма.
„О дзе-ж ты Марысенька дагэтуль была?
Чаму-ж ты Марысенька вянка ня зьвіла?"
„Ляжыць зьвіты ў сьвятліцы—забылася ўзяць
Як узялі Марысю ды за ценкі бокі,
Укінулі Марысіцу ды у Дунай глыбокі.
Пакуль тая Марысіца ды ўтанула,
Сем раз сваю мамунячку ды ўспомніла:
Багдай табе мамунячка ручка балела,
Як ты мяне малюсеньку біці жалела.
Маеш, маеш мамунячка яшчэ ў дому пяць,—
Ды ня пускай на начлегі — няхай ў дому сьпяць.
Маеш, маеш мамунячка на выданьню дзьве—
Не давай ім такой волі, як давала мне.

Запісаў В. Тумаш у в. Сьпяглiцы, гм.
Вішняўскай пав.Вялейскага
Луцэйкі Локцік.

# Хроніка

— **Апэляцыйны суд над „Грамадой.“** 28.II г. г. Апэляцыйны Суд у Вільні пачаў разглядаць справу быўшай „Белар. Сялянска-Работніцкай Грамады.“ Разгляд справы працягнецца, здаецца, каля двух тыдняў.

— **Выдаленьне вучняў з Віл. Бел. Гімназii.** Па загаду Віленскага Школьнага Куратара 18.XII.28 г. Пэдагогічная Рада і Бацькаўскі Камітэт Віл. Белар. Гімназіі звольнілі з Гімназіі 18 вучняў. Прычынай выдаленьня вучняў. было бытцам тое, што вучні старэйшых клясаў бралі ўдзел у нелегальным зьезьдзе працтаўнікоў Т-ва Беларускай Школы

27.II.29 г. у тэй гімназіі дайшло да новых непарадкаў Гэтым разам непарадкі пачалі ўжо вучні з малодшых клясаў, якія з самога рана не пайшлі ў клясы, але сабраўшыся ў салю Гімназіі пачалі рабіць мітынгі. Дырэкцыя ня мугучы разагнаць вучняў у клясы, паклікала на гэта паліцыю, якая ўсё успакоіла. Некулькі асоб было арыштавана. Сумна!

— **Новае Культурнае Т-ва.** У апошніх днях г. м. улады зацьвердзілі статут „Беларускага Каталіцкага Выдавецтва.“

— **Лекцыі ў Студэнскім Саюзе.** Стараньнем Бел. Студэнскага Саюзу былі наладжаны папулярна-навуковыя лекцыі ў мінулых двух месяцах с. г.

27.І. с. г. прачытаў лекцыю Ус. Шыран— студэнт мэдыцыны на тэму: „Хвароба рак ў чалавека.“

3.ІІ. с. г. прачытаў лекцыю А. Луцкевіч на тэму: „Напевы ліры Я. Купалы.“

17.ІІ. с. г. прачыталі лекцыі інж. А. Клімовіч на тэму: „Студэнскім шляхам“ і інж. Л. Дубейкоўскі на тэму: „Рэформа дзераўлянага будаўніцтва.“ Як бачам бел. студ. моладзь працуе.

— **Новыя кніжкі і часопісі.** Выйшлі з друку і прадаюцца: 1) брашурка „Спажывецкі коопэратыў і праца ў ім,“ цана 30 гр. і 2) „Сяброўская кніжка“ Беларускага Спажывецкага Коопэратыву, цана 10 гр. Апрацаваў і выдаў А. Васіленя. Галоўны склад: Вільня, Віленская 8.

Таксама нядаўна выйшлі з друку новыя кніжыцы, пад загалоўкам: „Ziarniatki z rodnaje junackaje niwy.“ P. Z., выдавецтва „Chryśc. Dumki“, цана 20 гр. і „Samaŭrad wiaskowych hmin“ Я. Пазьняка, выданьне „B. Krynicy“. Галоўны склад кнігарня „Пагоня“ Завальная 7.

— **„Саха“ № 2.** Выйшаў з друку № 2 гаспадарчага месячніка „Саха“. Часопісь гэта вельмі карысная для нашага земляробскага сялянства. Гадавая падпіска 3 зл. Адрэс: Вільня, Віленская № 8.

— **„Сям'я і Школа.“** Пад гэтакім загалоўкам зьявілася новая часопісь у беларускай мове. Выдае яе Пэдагогічная Рада з Бацькаўскім Камітэтам Віл. Бел. Гімназіі. Гэтая часопісь пасьвячаецца справам культурна-грамадзкім і пэдагогічным. Цана асобнага нумару 75 гр. Адрэс: Вострабрамская 9.

# Усячына.

— **Надзвычаўная прылада.** Адзін нямецкі інжынер Шэрмулы знашыў надта цікавую прыладу, пры помачы якой можа, бяз цяжкае працы, даведацца, ці ў якім мейсцы зямлі знаходзяцца якія-небудзь багацьці, як напр.: золата, серабро, жалеза, медзь, нафта і г. д.

Прылада гэтая невялікая, падобная да вісельніцы. На жалезнай істужцы зьвісае маленечкая сярэбраная кулька, а ў сярэдзіне гэтае кулькі знаходзіцца нейкі капсуль, які адыгрывае самую галоўную ролю. Капсулёў гэткіх ён мае 220, бо кожны адкрывае іншае.

Калі гэтую прыладу паставяць на месцы, ў якім знаходзяцца якія-небудзь багацьці, капсуль гэны пачынае кру-

піцца. Калі круціцца моцна, значыцца што зямныя багацьці знаходзяцца няглыбока, а калі паволі дык глыбей.

Зробленыя спробы з гэтай прыладай далі задавальняючыя вынікі. Гэты новы вынаход дасьць магчымасьць лёгка даведацца аб багацьці, якія знаходзяцца ў зямлі.

— **Грошы з часоў Нэрона**. Падчас работ у аднэй з капальняў каля Рыму адзін работнік знашоў 362 рымскія манэты з часоў Нэрона.

— **Новая падарожжа да паўночнага полюсу**. Ведамы падарожнік Нансэн прыбыў у Ню-Ёрк з мэтай прачытаньня некалькі лекцыяў аб яго новай падарожы на паўночны полюс, якую ён мае замер адбыць на цэпэліне ў 1930 г.

— **Добрая ахвяра**. У сувязі з прыпадаючым юбілеям вялікага ангельскага вучонага Эдісона, вынаходцы электрычнай лямпы, грамафона і іншых рэчаў, амэрыканскі фабрыкант і ўласьнік вялікіх самахадовых фабрыкаў Форд ахвяраваў на музэй гэтага вучонага 5.000.000 даляраў.

## ПРЫКАЗКІ.

Вядзейна жыць, толькі зямлю цяжаліць.
Без падпалу дровы не гарэць.
Шануй бацькаву капейку, то і сваю здабудзеш.
У сваім краю, як у раю.
Давалі ды з рук ня выпускалі.

## ЗАГАДКІ.

1. Без вакон і без дзьвярэй, поўна хатачка дзяцей.
2. Бяз ног падымаецца дыбам, а бяз крыльляў ляціць к небу.
3. Беленькія курачкі з падпечку глядзяць.
4. У аднэй дзежачцы—удва цесты.
5. Галаву зьядзём, скуру прададзём, а косьці на сьметнік выкінем.

УВАГА. Для пяці першых асоб, прыслаўшых разгадкі вышэй паданых загадкаў у Рэд. „Ш. М.“, будуць падараваны бел. кніжкі.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і Уладыслаў Тарасэвіч.*

Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч.